# Тыднёвік Магілёўскі




№ 14 (129) 5 – 11 кастрычніка 2001 г. Кошт 80 руб.


# Лічым сьвятым абавязкам...





Фота IREX

...Напрыканцы 80-х гадоў народу Беларусі адкрылася жудасная праўда аб масавых рэпрэсіях сталінскага рэжыму. Стала вядомым і адно зь месцаў масавых расстрэлаў і пахаваньняў ахвяраў – урочышча Курапаты. Назва сталася сымбалем памяці і болю па бязьвінна загінуўшых, бясьсьледна зьніклых. Дзякуючы намаганьням грамадзкасьці, дасьледаваньням і публікацыям Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва, раскопкам археолягаў, стала вядома, што ў 30-40-х гадах мінулага стагодзьдзя тут былі расстраляныя дзясяткі, а магчыма, што сотні тысячаў чалавек. Іх рэшткі ляжаць у сотнях курапацкіх магілаў. У 1988-1989г.г. дзяржаўная камісія на чале з генэральным пракурорам Тарнаўскім пацьвердзіла, што ў Курапатах бязьвінныя людзі былі зьнішчаныя НКВД. Таму ў 1993 годзе ўрочышча было занесенае ў дзяржаўны рэестар гісторыка-культурных каштоўнасьцяў Рэспублікі Беларусі як "Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсіяў у 30-40г.г. XX стагодзьдзя". Курапатам быў нададзены статус першай катэгорыі гістарычна-культурных каштоўнасьцяў. Так, дзякуючы народнай волі, Курапаты сталіся Нацыянальным нэкропалем – адной з галоўных памятных мясьцінаў нашага народу.

На жаль, былі і ёсьць у Беларусі сілы, якія хацелі б абвергнуць гэтую праўду, абяліць сталінскі рэжым й яго злачынствы. Яны спрабавалі даказаць, што ў Курапатах знаходзяцца рэшткі ахвяраў фашыстоўскага рэжыму. Створаная іх намаганьнямі чарговая камісія правяла ў 1998-1999г.г. новае расьсьледаваньне, вынікі якога засакрэчаныя дагэтуль. Ці не таму, што яны не адпавядаюць замоўленай вэрсіі?

Сёньня зноў узьнікла небясьпека страціць наш Нацыянальны нэкропаль – Курапаты. Распачатае пашырэньне менскай кальцавой дарогі, якая можа зьнішчыць магілы бязьвінна забітых. Будаўніцтва ў раёне Курапатаў пачалося раней заплянаванага тэрміну (работы плянаваліся на 2003-2005гг.), без усялякага грамадзкага абмеркаваньня прапанаванага варыянту рэканструкцыі. Будаўнікі ігнаруюць неабходны ў такім выпадку нагляд з боку спэцыялістаў і археолягаў Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а нават і элемэнтарную тэхніку бясьпекі. Земляныя работы вядуцца вельмі пасьпешліва, практычна без чарцяжоў на рабочай стадыі й без праекту арганізацыі будаўнічых работ. У выніку пачатай будоўлі была закранутая паляна перад Крыжом Пакуты, якая не павінна, згодна з папярэднім праектам, быць уключаная ў зону будаўніцтва дарогі. Каб не дапусьціць руйнаваньня могілак, на шляху бульдозэраў сталі хлопцы і дзяўчаты з Маладога Фронту, "Эўрапейскага шляху" ды іншых моладзевых арганізацыяў.

Дзеля вырашэньня гэтага канфлікту, дзеля абуджэньня народнай маральнай энэргіі ў абароне Нацыянальнага нэкропалю мы, прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў, палітычных партыяў, прафсаюзаў, навукоўцаў, інтэлігенцыі, аб'ядналіся ў грамадзкую ініцыятыву "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты". Пасьля высьвятленьня сытуацыі мы складзем план доўгатэрміновай працы дзеля ўратаваньня Курапатаў, дзеля прыцягненьня ўвагі ўсіх жыхароў Беларусі да асэнсаваньня таго, што адбылося з нашым народам у XX стагодзьдзі, каб такое больш ніколі не паўтарылася. Будзем памятаць – значыць, не паўторым. Лічым сьвятым абавязкам абарону ад пагрозы зьнішчэньня і руйнаваньня ня толькі Курапацкага Нацыянальнага нэкропалю, але і ўсіх помнікаў і мэмарыялаў нашай краіны.

**Грамадзкая ініцыятыва "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты"**

*Кантактны тэлефон у Менску: 206-59-09.*

ВЫБАРЧЫ РОЗГАЛАС

## Крымінальная палітыка

***У вобласьці працягваецца перасьлед актывістаў прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі.***

Супраць магілёўскіх актывістаў ініцыятыўнай групы Ўладзімера Ганчарыка Віктара Ясюкевіча і Тамары Леўскай былі заведзеныя крымінальныя справы. Міліцыянты сьцьвярджаюць, што В.Ясюкевіч і Т.Леўская 7-га верасьня зьбілі іхняга супрацоўніка маёра Ладзісава. Вядома, што падчас распаўсюду агітацыйных матэрыялаў абвінавачаных актывістаў неаднойчы затрымлівалі міліцыянты, кожны раз канфіскуючы ў іх друкаваную прадукцыю. Пры гэтым, таксама неаднаразова, міліцыянты ўжывалі супраць іх фізычную сілу.

Паводле словаў В.Ясюкевіча, 7-га верасьня маёр Мікалай Ладзісаў прапанаваў яму і Т.Леўскай спыніць агітацыю *(цалкам законную – "ТМ")* і "пройти в участок для выяснения личности". Калі яны, пасьля прад'яўленьня сваіх пашпартоў, адмовіліся пайсьці ў пастарунак, бо міліцыянт ня змог патлумачыць прычыну затрыманьня, маёр паваліў хлопца на зямлю. Потым ён паклікаў на дапамогу чалавека ў цывільным, які пры гэтым ладна штурхнуў Тамару Леўскую. У пастарунку на абодвух затрыманых быў складзены пратакол, згодна зь якім яны "сопротивлялись и били майора". Міліцэйскі сьледчы, што прыняў справу, у той самы дзень – 7-га верасьня – меў відэакасэту з запісам інцыдэнту, аднак адмовіўся паглядзець яе па гарачых сьлядах, спаслаўшыся на занятасьць. Пазьней сталася вядома, што відэакасэта сапсавалася...

Другая крымінальная справа набірае абароты ў Шклове. У незаконных перашкодах правядзеньню выбараў тут вінавацяць мясцовага каардынатара "Незалежнага назіраньня" Пятра Мігурскага, арыштаванага яшчэ да 9-га верасьня. Аб сур'ёзных намерах улады гаворыць той факт, што сьледчую групу "па Мігурскаму" узначальвае сам раённы пракурор Шніткоў.

Тым часам адміністрацыі як мінімум 10-ці ўстановаў вобласьці прапанавала "сваім" актывістам выбарчай кампаніі звольніцца "па асабістым жаданьні". Пад гэтую прапанову патрапіў, напрыклад, супрацоўнік Дрыбінскага філіялу "Белаграпрамбанку" У.Рынг, чыя вінаватасьць палягае ў тым, што ён быў даверанай асобай У.Ганчарыка. Сьпіс беспрацоўных Клічаўскага раёну па той жа прычыне папоўніла выкладчыца аграрна-тэхнічнага каледжу Людміла Гушча *(ейны допіс мы друкавалі ў 10-м нумары).*

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях палітыкі***

◈

## Выбары скончыліся – забудзьцеся!

Нядаўні апазыцыйны кандыдат на прэзыдэнта Ў.Ганчарык атрымаў адмоўны адказ на сваю заяву ад адмене вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў з нагоды шматлікіх парушэньняў заканадаўства ў часе іхняга правядзеньня.

Подпіс пад адказам паставіла судзьдзя Ларыса Філіманіхіна, якая, у прыватнасьці, паведаміла заяўніку аб тым, што "скарга ня можа быць разгледжаная ў судзе з прычыны яе непадведамнасьці". Далей было патлумачана, што заява аб непрызнаньні выбараў сапраўднымі магла б быць прынятая да разгляду ў тым выпадку, калі б такое рашэньне – непрызнаньне – было б прынятае Цэнтарвыбаркамам.

Прачытаўшы адмову, Уладзімер Ганчарык заявіў, што "гэта нейкі вар'яцкі дом, тут няма што камэнтаваць". Аднак за ім застаецца права абскардзіць і гэтае рашэньне Вярхоўнага Суду, зразумела, – на ягоны ж адрас.

... Падаецца, аднак, што Ўладзімер Ганчарык гэтае права скарыстоўваць ня будзе, бо вычарпальная адзнака таго, што ў нас адбываецца, ім ужо дадзеная вышэй.

***Паводле інф. агенцыяў***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Толькі пасьля выбараў кіраўніцтва аблвыканкаму здолела заўважыць праблему з кадрамі ў адным з "чарнобыльскіх" раёнаў – Краснапольлі. Як заўжды, чыноўнікі абмежаваліся канстатацыяй: маўляў, катастрофа прымусіла лепшых людзей пакінуць гэтыя мясьціны, каб шукаць шчасьця там, дзе "чыста". Заўважылі яны й такую навіну, як адсутнасьць у раёне належнага вода- і газазабесьпячэньня, разваленую сацыяльную сфэру. Да таго ж афіцыйная лічба беспрацоўных набліжаецца да 4% (улічым, што ў раёне ўсяго жыве каля 14 тыс. чалавек). Дадалася сюды ж сьмяротнасьць, якая перавысіла нараджальнасьць удвая. Але ж безпамылковая прэзыдэнцкая палітыка ня можа быць зьмененая. Бо сапраўды – ня ёсьць жа названыя вышэй паказчыкі важкай прычынай, каб гэтую палітыку памяняць! Хай людзі церпяць. А чыноўнікі, як і раней, мужна папрасілі ва ўрада і прэзыдэнта грошай, капітальных укладаньняў і крэдытаў...

Схаваныя раней статыстычныя лічбы пасьля 9-га верасьня сталі "усплываць на паверхню". Паводле стану на пачатак жніўня амаль палова прадпрыемстваў вобласьці былі стратнымі. Параўнайце мінулагодні 31% колькасьці стратных заводаў і фабрык зь сёлетнімі 47%. Зьявіўся яшчэ адзін цікавы паказчык: рэнтабэльнасьць праданай прадукцыі, то бок наколькі рэалізаваная прадукцыя забясьпечвае патрэбы вытворцы. Дык вось калі ў мінулым годзе паказчык быў невысокі (4,2%), то сёлета ён зьменшыўся да 2,9%. Такім чынам, абраны ў 1994-м эканамічны курс сапраўды дае відавочныя вынікі.

Паводле зьвестак абласных прафсаюзаў, рост кошту сярэдняга спажывецкага харчовага кошыку з пачатку году ўзрос на 41%! Калі афіцыйныя асобы кажуць, што рост цэнаў у Беларусі нязначны, яны спасылаюцца звычайна на штомесяцовыя справаздачы, у якіх гутарка заўжды ідзе пра 3-4%. Выглядае зусім на мізэр. Аднак за 9 месяцаў з гэтых мізэраў нарадзілася такое дзіця, якое ва ўсім сьвеце называюць інфляцыяй. Толькі ў нас яна... схаваная. Хаваюць яе за нібыта стодаляравым заробкам, за стрымліваньнем коштаў на асобныя прадукты й г.д. Супраць аб'ектыўных законаў, тым ня менш, дэкларацыі моцы ня маюць.

Апошнім часам бывае немагчыма зьехаць з Магілёву. Праблема ня ў тым, што з нашага гораду павальна бягуць людзі. І ня ў тым, што ў іншых гарадох краіны лепей. Папросту кіраўнік дзяржавы напярэдадні выбараў выдаў указ, па якім студэнтам дазваляецца набываць квіткі на міжгародны транспарт бясплатна. Дык нашыя маладыя людзі адразу на месяц наперад панабывалі іх, каб потым не клапаціцца пра месца ў аўтобусе альбо цягніку. У выніку атрымалася, што ня ўсе зь іх тыя квіткі скарысталі, таму аўтобусы з Магілёва былі вымушаныя ехаць паўпустымі. На чыгунцы былі вымушаныя чапляць дадатковыя вагоны, у якіх ўшчыльную сядзелі дысцыплінаваныя пасажыры. Агульныя страты транспартнікаў склалі больш чым 150 мільёнаў рублёў.

Напрыканцы верасьня адкрылася яшчэ адна хранічная язва нашай эканомікі: запазычанасьць па заробках. На 1-ае кастрычніка яна склала 7 мільярдаў рублёў. Натуральна, больш за палову згаданай сумы (4,5 млрд.) склалі грошы, якія неабходна аддаць сялянам. На дзень выбараў агульнымі намаганьнямі прадпрыемстваў, банкаў і дзяржбюджэту заробкавую запазычанасьць амаль перамаглі. Вось і пачынае сёньня гэта нам адгукацца. Бо грошай у гаспадарках, у прамысловасьці, а таксама ў бюджэце замала. Значыць, тая запазычанасьць працягне расьці.

*Да сустрэчы праз тыдзень,*
*Сымон Глазштэйн.*

ГАРТАЮЧЫ АФІЦЫЙНУЮ ПРЭСУ

## Іхняя кампанія і Лявонаў

***Падобна на тое, што хутка мы ізноў пачуем пра гучныя арышты людзей, якія засьведчылі сябе ў нядаўняй выбарчай кампаніі на баку апанэнтаў дзеючага кіраўніка краіны. Зразумела, што ніводнага слова пра палітыку ў дачыненьні да іх сказана ня будзе, а гаворка пойдзе пра крымінальныя справы ў эканамічным рэчышчы. Менавіта так можна будзе засьцерагчыся, з аднаго боку – ад грамадзкага сумневу ў шчырасьці ўлады, а з другога – ад эўрапейскіх абвінавачваньняў у перасьледзе людзей па палітычных матывах.***

Досьвед такога пакараньня сваіх палітычных апанэнтаў уладнымі рэжымамі на абсягах цяперашняга СНГ вялікі, бо вядзе свой пачатак яшчэ ад паўстаньня бальшавіцкай улады, а найбольшага разьвіцьця дасягнуў пры сталінскай дыктатуры. Адтуль ён і пераносіцца ў наш час, нават безь якога б там ні было рацыяналізатарства.

Сьведчаньнем таму – некалькі публікацыяў апошняга часу ў "Советской Белоруссии" (адна зь іх, пра "Леонова и его компанию" днямі перадрукаваная абласной газэтай "МВ"). Зразумела, што за гэтымі артыкуламі стаяць зусім не журналісты, якія быццам адважыліся на нейкае ўласнае расьсьледваньне і здолелі ў нашых цалкам закрытых умовах самастойна "накапаць" салідны кампрамат. За гэтымі публікацыямі – ахоўваючыя рэжым спэцслужбы. Менавіта яны надыктоўваюць такія тэксты, менавіта яны даюць для іх "факты", менавіта яны акрэсьліваюць пералік канкрэтных прозьвішчаў тых, каго належыць рабіць героямі публіцыстычнага выкрыцьця. Далей – шлях кароткі і накатаны: узбуджэньне крымінальнай справы, арышт, сьледзтва, суд... У 30-я абавязковым яшчэ было калектыўнае выказваньне бязьмежнай падтрымкі дзейнасьці чэкістаў (верных слугаў партыі і ўрада) на заводзкіх і калгасных сходах з падрыхтаванымі прамоўцамі, якія заканчвалі кожны свой выступ патрабаваньнем "расстраляць ворагаў як шалёных сабакаў". Цяпер сходаў не праводзяць, а патрэбныя грамадзтву высновы падказваюцца непасрэдна ў тэкстах публікацыяў (альбо гучаць з экрану БТ).

І хоць адпаведныя заклікі й ацэнкі цяпер менш палохаючыя, чымсьці тое было раней, аднак напоўненыя яны тым жа публіцыстычным патасам і той жа нянавісьцю. Аўтары навейшых выкрывальніцкіх публікацыяў, якім удаецца пранікаць у самыя патаемныя куткі "чорных душаў" тых, каго яны абвінавачваюць, аднекуль ведаюць, што дзейнасьць гэтых людзей насамрэч носіць нават ня столькі злачынна-прыватны характар, колькі абумоўленая іх "палітычным, апазыцыйным радыкалізмам". А гэта нашмат страшней за любыя самі па сабе крымінальна-фінансовыя штучкі, бо – накіравана супраць "непарушнага адзінства народу і Лукашэнкі". Адсюль столькі ў тых радках злосьці, хамства, помсьлівасьці, неадпаведнасьці звычайнай лёгіцы. Прыкладам, наш аўтар паведамляе, што нейкі бізнэсовы паплечнік Лявонава зьбег ад правасудзьдзя і хаваецца ў Расеі. Паведамляе без спасылкі на крыніцу інфармацыі, што сьведчыць пра тое, што аб гэтым ведае ён сам. Чаму яго не прыцягваюць да адказнасьці за хаваньне гэтай інфармацыі ад беларускай пракуратуры?..

Нашая краіна, як ужо зазначана, ня ёсьць ў СНГ адзінкавай, ўжываючай мэтад палітычнага перасьледу праз завядзеньне крымінальных справаў, накіраваных нібыта на барацьбу з карупцыяй, што так падабаецца электарату. Кыргызстан і Туркмэнія, Расея (узяць хоць бы НТВ, а цяпер і ТВ6), Казахстан, Азэрбайджан, Украіна... Аднак трэба адзначыць, што ў некаторых зь іх існуюць усё ж парлямэнты, дзе ня толькі дэпутацкія групы, а нават адзінкавы парламэнтар можа зрабіць запыт у любую дзяржаўную інстанцыю. Існуюць магчымасьці выступіць у прэсе і па тэлебачаньні. Існуюць арганізаваныя і дзеючыя партыйныя структуры. Усё гэта разам дазваляе час ад часу ратаваць сумленных людзей ад дыктатарскай помсты за іншадумства. З усім гэтым у нас – цішыня. Апошнія парасткі дэмакратычных уяўленьняў і сумленьня, што захоўваюцца ў нас выключна праз асабістыя якасьці нязломных асобаў, улада, адчуваецца, мае намер зьнішчыць бліжэйшым часам, цягам 100 новых прэзыдэнцкіх дзён.

Гэта, дарэчы, наўпрост тычыцца пытаньня аб магчымай лібэралізацыі рэжыму пасьля ягонай нядаўняй перамогі. У гэтую магчымасьць вераць, між іншым, ня так мала людзей, як гэта магло б падацца на першы погляд. Адныя апраўдваюць тым сваю няздольнасьць нешта рэальнае зрабіць на адраджэнскай ніве, другія – сваё маральнае згодніцтва, трэція (ідучы працаваць ва ўладу) суцяшаюць тым сваё сумленьне... Астатнім застаецца чакаць начнога званка ў дзьверы, альбо па новай мэтодыцы – зашчапленьня кайданак перад тэлекамэрай.

Жудаснае прадбачаньне?..Як знаць, першыя прэтэндэнты ўжо адкрыта называюцца ў дзяржаўным друку...

***Генадзь СУДНІК***

## У апанэнтаў рэжыму выбар невялікі

Палкоўніка Алега Алкаева, які сьведчыў супраць найвышэйшых кіраўнікоў краіны ў справах Захаранкі, Ганчара і Красоўскага, звольнілі зь міліцыі бяз пэнсіі й грашовай дапамогі.

Пра гэта паведаміла ягоная жонка Ірына. Яна сьцьвярджае, што А.Алкаеў звольнены з фармулёўкай "на асабістае жаданьне", хаця ў сваёй заяве кіраўніцтву ён прасіў звольніць яго "за выслугу гадоў". Розьніца тут вельмі істотная.

Цяпер 48-гадовы Алкаеў ня будзе атрымліваць пэнсіі два гады, пакуль яму ня споўніцца 50. Таксама палкоўніка пазбавілі грашовай дапамогі на некалькі месячных заробкаў, якую выплочваюць афіцэру міліцыі па выхадзе на пэнсію з нагоды выслугі гадоў. Страціў Алкаеў і яшчэ некаторыя прывілеі, што гарантуюцца палкоўніку ўнутраных справаў на пэнсіі.

– Муж усё яшчэ знаходзіцца ў Нямеччыне, яму падоўжылі гасьцявую візу. У матэрыяльным пляне, аднак, ягонае становішча даволі кепскае. Але я па-ранейшаму катэгарычна супраць ягонага вяртаньня ў Менск, – паведаміла журналістам Ірына Алкаева.

Хутчэй за ўсё, Алкаеў цяпер будзе шукаць трывалага прытулку за мяжой.

***Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ***

## Ня першы над "Пагоняй" суд

Сёньня ў Вышэйшым гаспадарчым судзе Беларусі павінна адбыцца паседжаньне па зыску пракуратуры Гарадзенскай вобласьці аб спыненьні дзейнасьці й ліквідацыі газэты "Пагоня".

27-га верасьня, у папярэдне прызначаны дзень слуханьня справы, Гарадзенская пракуратура нечакана зьмяніла падставы падачы свайго зыску, аднак адпаведны працэсуальны дакумэнт своечасова зацікаўленым бакам не накіравала. Такім чынам былі парушаныя патрабаваньні Гаспадарчага працэсуальнага кодэксу. У зьвязку з гэтым суд адклаў разьбіральніцтва й прызначыў новую дату слуханьня справы на 5-е кастрычніка.

***Паводле прэс-службы БАЖ***

**Ад "ТМ":** Мы ўжо выказвалі сваю салідарнасьць з гарадзенскімі калегамі, якія церпяць перасьлед толькі за тое, што маюць сьмеласьць падаваць чытачам сумленную інфармацыю. Не ўпершыню выпадае рэдакцыі "Пагоні" бараніцца ад закрыцьця. Цяжка сказаць, як тое будзе гэтым разам. Дакладна мы ведаем толькі словы рэдактара газэты Міколы Маркевіча: "так ці інакш "Пагоня" будзе выходзіць, бо гэта вырашаюць ейныя чытачы, для якіх мы працуем больш за 5 гадоў, а не адміністратыўныя інстанцыі. Пакуль чытачы з намі, мы ня сыйдзем".

## Рызыкоўная "братская дружба"

***Рабочыя Магілёўскага будаўнічага трэсту №12, якія працавалі каля Масквы, ня могуць атрымаць зaробленых грошай.***

Рабочыя кажуць, што начальнікі ўпраўленьняў трэсту пагражалі ім звальненьнем з працы, калі яны адмовяцца ехаць у Расею. Агулам кіраўніцтва трэсту накіравала каля 100 сваіх працаўнікоў на рамонт казармаў і дамоў адной з расейскіх вайсковых частак. Умовы жыцьця там аказаліся невыноснымі. Вось што распавёў рабочы Сяргей Буянаў: "Жылі мы па 15-30 чалавек у адным памяшканьні. Па падлозе бегалі пацукі. На двохярусных ложках бялізны ўвогуле не было. Спалі пад коўдрамі, ад чаго падоўгу адчувалі часотку". Ня лепшым было і харчаваньне. На працягу двох месяцаў расейскі прараб кожнаму на дзень выдаваў усяго па 50 рублёў (менш за $2). Таму харчаваліся магілёўцы таннымі кансэрвамі і кількай.



Пасьля вяртаньня ў Магілёў адзін з будаўнікоў нейкім чынам дамогся выплаты сабе даволі значнай сумы. Аднак параіцца зь ім, каб дамагчыся таго ж, астатнія ня здолелі, бо чалавек адразу ж і звольніўся. Няўдалыя ягоныя калегі да гэтага часу ня могуць высьветліць нават таго, хто ж павінен ім заплаціць: родны трэст альбо падмаскоўныя наймальнікі. Юрыдычныя кансультанты з абласнога аб'яднаньня прафсаюзаў паведамілі будаўнікам, што разьлічыцца зь імі павінен той, хто пазначаны плацельшчыкам у адпаведнай дамове паміж беларускім і расейскім бакамі. Аднак высьвятляецца, што рабочыя пра тую дамову й ня чулі, а ня тое што бачылі альбо чыталі.

***Алесь СЕРДЗЮКОЎ***

# ...Нібы на "паласе перашкодаў"

***У Бялыніцкім раёне, асабліва ў галіне сельскагаспадарчай вытворчасьці, на працягу апошніх гадоў адчуваецца востры дэфіцыт кадраў, у першую чаргу – кіраўнічага ўзроўню.***

За паўтары гады зьмяніліся тры начальніка райсельгасхарчу. Сёньня гэтая пасада застаецца вакантнай, бо нядаўна Віталь Шышоў, які кіраваў установай з красавіка, падаў заяву на звальненьне па ўласнаму жаданьню.

З нагоды падачы такой жа заявы вызвалены ад пасады старшыні праўленьня калгаса імя Заслонава Генадзь Галкоўскі. Праўда, адразу ж кіраўніком гэтай гаспадаркі быў абраны Ігар Кудраўцаў, які да красавіка працаваў старшынём райсельгасхарчу, але ў сувязі з узбуджэньнем супраць яго крымінальнай справы вымушаны быў сысьці.

Знайшоўся чарговы гаспадар і для калгасу імя Кірава, дзе цягам году зьмянілася шэсьць кіраўнікоў. Старшынёй праўленьня там абраная Натальля Галуза, якая дагэтуль працавала галоўным заатэхнікам у калгасе "Ленінскі заклік".

Яе папярэднік, магілёвец Леанід Магдалаў, спрабаваў было рэфармаваць гаспадарку ў сельскагаспадарчую арцель. Але яго намаганьні выніку не далі.

Ходзяць чуткі, што ў самы бліжэйшы час застанецца без старшыні й прыгарадны калгас імя Энгельса. Цяперашні ягоны кіраўнік Мікалай Сыцэвіч быццам зьбіраецца заняць больш спакойную пасаду дырэктара Бялыніцкага дома-інтэрнату для старых і інвалідаў.

На сваю ранейшую пасаду – дырэктара саўгасу "Эсьмоны" – вярнуўся Рыгор Барысёнак. Напачатку лета ягонае месца заняў галоўны інжынэр суседняга саўгасу "Іскра" А.Смоўж. Але новага кіраўніка хапіла толькі на тры месяцы.

**Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ**

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Горак



***Упраўленьне адукацыі райвыканкаму зачыніла беларускую клясу ў СШ №2.***

Адзіная дзяўчынка, якая навучалася там па-беларуску паводле індывідуальнай праграмы, Марыя Каралькова, цяпер атрымлівае беларускую адукацыю ў хатніх умовах. Яе бацькі не пагадзіліся навучаць дачку ані ў вясковай школе, ані ў гарадзкой расейскай.

***Каля дзясятка чалавек зараз лекуюцца ў шпіталях раёну пасьля атручваньня грыбамі.***

Збольшага ўсе яны паераблыталі бледную паганку са звычайнымі сыраежкамі. Ёсьць сярод ахвяраў і недарэчлівыя кулінары, якія ня здолелі добра прыгатаваць смарчкі, страчкі і кабылкі.

Наогул, сёлета мэдыкі не рэкамэндуюць ужываць грыбы ў ежу. Лета было багата на дажджы і сьпякоту, а таму шмат якія грыбы прыдбалі таксінаў.

### ...з Дрыбіна

***Рясьнянская школа-інтэрнат атрымала ў падарунак 5.500 даляраў ЗША на набыцьцё трактара для апрацоўкі калясядзібнага кавалка зямлі.***

Зрабіла гэты падарунак італійская грамадская арганізацыя "Чарнобыль – Альяно Эпан", якая ўжо некалькі гадоў апякуецца дзецьмі раёна. Рэгулярна накіроўвае яна сюды гуманітарную дапамогу, а таксама штогод вывозіць малых дрыбінцаў на аздараўленьне ў Італію.

**Віталь ДРАНІК**

### ...зь Бялынічаў



***У раёне пасьля выбараў паўстала яшчэ адна падначаленая ўладзе грамадзкая арганізацыя.***

Афіцыйная яе назва – раённае аддзяленьне Беларускага саюзу жанчын. За кароткі час структуры новага фармаваньня былі ўтвораныя ў 23-х працоўных калектывах. Ужо абраныя праўленьне, прэзыдыюм, рэвізійная камісія. Ачоліла аддзяленьне загадчыца аддзелу ЗАГС.

**Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ**

### ...з Бабруйску

***23 верасьня ў вёсцы Багушоўка адбылася значная падзея.***

Адчынілася пасьля рамонту Сьвята-Пакроўская царква старога абраду.

***На ўліку ў мясцовым міжраённым наркалягічным дыспансэры стаяць 4.266 чалавек, ці 19 чалавек на 1.000 насельніцтва.***



Хранічных алькаголікаў маеецца 417 асобаў. Акрамя таго, 29 пацыентаў маюць дыягназ "наркаманія" і яшчэ 19 ужываюць наркотыкі час ад часу.

**BARC**

## ЖЫЦЬЦЁ. КРАІНА. ВЫБАРЫ... ПОСТФАКТУМ

# Як жыць далей?

***Спадзяваньні дэмакратычнай часткі беларускага грамадзтва на магчымыя зьмены ў добры бок у краіне не спраўдзіліся. Рэжым, пабудаваны паводле жорсткай цэнтралізавана-намэнклятурнай схемы, выкарыстаўшы ўвесь свой адміністратыўны патэнцыял, адняў у грамадзтва перамогу. Тым самым – захаваў сябе, па меншай меры, на наступныя пяць гадоў.***

***Апазыцыйныя дэмакратычныя партыі, грамадзкія аб'яднаньні й іншыя інстытуцыі адкрытай грамадзянскай супольнасьці, у тым ліку незалежныя СМІ, вымушаныя будуць лічыцца з гэтым фактам. Ім прыйдзецца дзейнічаць у вельмі цяжкіх умовах, якія, да таго ж, будуць станавіцца яшчэ больш жорсткімі.***

Ужо сёньня відавочна, што ўлада хоча й надалей даканаліць свае антыдэмакратычныя "збудаваньні". Асаблівая роля ў гэтай працы належыць сродкам масавай агітацыі й прапаганды (СМАП). Падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі сталася канчаткова зразумелым, што ў нас цалкам манапалізаваныя "дзяржаўныя" друкаваныя выданьні, радыё і тэлевізія. Таму можна ўпэўнена канстатаваць, што былыя "дзяржаўныя СМІ" пераўтварыліся ў масавапрапагандысцкія інфармацыйныя сродкі ўладных структураў усіх узроўняў. Адпаведна пабудаваная структура "вэртыкальнай" падначаленасьці й адказнасьці кіраўнікоў ды служачых гэтых сродкаў.

Журналістыка, як адна з свабодных грамадзкіх прафэсіяў, у гэтых СМАП спыніла сваё існаваньне. Няшмат зь іхных супрацоўнікаў яшчэ лічаць сябе журналістамі, але й яны ў хуткім часе, сутыкнуўшыся з абсалютнай залежнасьцю ад штатных ідэолягаў і цэнзараў, урэшце зразумеюць, кім ёсьць. Бо журналіст, які выконвае волю ўлады, ня ёсьць журналістам. Ён толькі афармляе гэтую волю.

У гэтых умовах можна прагназаваць абвастрэньне ў дачыненьнях падуладных СМАП і незалежных СМІ. Высілкі першых будуць скіраваныя на аднабаковую ідэалягічную апрацоўку грамадзкай апініі ("глыбіннае замбаваньне") з мэтаю стварэньня татальнага *единомыслия*. Сярод прыярытэтаў незалежнай журналістыкі, на наш погляд, трэба адзначыць наступныя кірункі.

Па-першае, як і раней, трэба аб'ектыўна і праўдзіва інфармаваць грамадзянаў аб усіх падзеях у жыцьці краіны, а таксама па-за ейнымі межамі.

Па-другое, патрэбны крытычны аналіз розных сфэраў ўзаемадачыненьняў сыстэмы: чалавек-грамадзтва-дзяржава. Тут і эканоміка, і палітыка, і права, і культура, г.д.

Па-трэцяе, трэба выконваць усе нормы дзеючага заканадаўства, – нават тады, калі яно антыдэмакратычнае й не адпавядае міжнародным стандартам.

Па-чацьвертае, неабходна праявіць карпаратыўную салідарнасьць. Любы "наезд" уладных структураў ці асобных чыноўнікаў на незалежную прэсу павінен разглядацца як напад на тваё выданьне. Павінен дзейнічаць прынцып "інфармацыйнага бумэрангу", каб максымальна шырока інфармаваць грамадзтва аб сапраўдных прычынах чарговага наступу ўлады на незалежныя СМІ.

Трэба спадзявацца таго, што наступствы прэзыдэнцкіх выбараў яшчэ доўга будуць выяўляцца. Пры гэтым адным з галоўных узбраеньняў дзяржаўнага апарату будуць заставацца ягоныя СМАП – надзейна абароненыя й фактычна непадсудныя. Яны зрабілі вялікі кавалак працы, каб забясьпечыць кандыдату ўлады "элегантную победу", і цяпер стануць умацоўваць плады гэтай перамогі.



Няма сумневу ў такім выпадку, што атмасфэра палітыка-прававога й сацыяльнага канфлікту ў Беларусі працягне існаваць. Старая-новая ўлада на гвалт патрабуе хай толькі ўнутранага, але ўсеагульнага прызнаньня сваёй легітымнасьці. Сумневы на гэты конт яна без ваганьняў будзе трактаваць як "антинародные" і "враждебные". А публічныя сумневы (якія можна выказаць выключна ў незалежнай прэсе) будуць патрактаваныя, хутчэй за ўсё, як хлусьня й паклёп на адрас "народного избранника" ці як "антигосударственная пропаганда и агитация". Заканадаўствам прадугледжаныя строгія пакараньні ў падобных выпадках, у тым ліку ў Крымінальным кодэксе. Гарадзенская "Пагоня" і пінская "Провинциалка" ужо адчулі смак "нового порядка".

Бальшыня незалежных беларускіх газэтаў, якія актыўна асьвятлялі выбарчую кампанію, цяпер адчуваюць пільную ўвагу з боку ўладных структураў, асабліва ў рэгіёнах. Сёньня іх актыўна спрабуюць дыскрэдытаваць падначаленыя ўладзе СМАП. У пэўнай ступені, гэта – новы этап наступу ўлады на свабоду слова, на правы і прафэсійную незалежнасьць дэмакратычна арыентаваных недзяржаўных мас-мэдыя. Бо калі раней "дзяржаўныя" газэты, радыё і тэлевізія толькі пэрыядычна "кідалі камяні" у гарод вольнай прэсы, то зараз такая практыка сталася будзённай нормай. Здаецца, што спаўняюцца мары "галоўнага прэтэндэнта на пост №1" – "разобраться со всеми после выборов". Але, як бы там ні было, вольная прэса працягне выконваць сваю вельмі важкую грамадзкую функцыю.

Апошнія выбары, дарэчы, паказалі, што многія незалежныя СМІ нашмат больш адказна і прафэсійна адлюстроўвалі гэтую падзею, чымсьці выбары ў "парлямэнт" у мінулым годзе. І менавіта гэта сталася прычынай шматлікіх нападкаў на іх з боку СМАП. Нарэшце, трэба ясна разумець, што канца сьвету не адбылося. Жыцьцё, нягледзячы ні на што, працягваецца, а таму ніхто ня можа спыніць пошукі праўды.

Калі казаць вобразна, то ролю сродкаў масавай інфармацыі ў выбарчым працэсе можна акрэсьліць як "пяты элемэнт", які вельмі неабходны, каб актывізаваць усе астатнія элемэнты гэтага працэсу. Тое, аднак, не адзіная функцыя СМІ. Яны павінны знаёміць людзей ня толькі з усімі ўдзельнікамі выбарчай гонкі, але й забясьпечыць праз аб'ектыўнае інфармаваньне чытачоў празрыстасьць і справядлівасьць выбараў. Яны павінны выконваць ролю грамадзкага назіральніка, кантралёра й інфарматара адначасна. У выбарчай сыстэме ня можа быць месцаў, закрытых для прэсы.

Вось чаму не патрэбныя незалежныя СМІ нядобрасумленнай уладзе. Бо яна імкнецца атрымаць перамогу любым коштам. Такая ўлада адразу ж, як толькі яе заклікаюць да выкананьня агульнапрынятых правілаў і нормаў, пачынае крычаць аб "падвойных стандартах". Такая ўлада жадае праводзіць выбары выключна паводле сваіх, "асаблівых" правілаў. Аднак так не павінна быць, калі мы хочам жыць сярод цывілізаваных краінаў і народаў.

Усе спробы ўлады паставіць незалежныя СМІ на калені, зьнішчыць у краіне свабоду слова – гэта міжнародны прысуд самой уладзе, якая намагаецца схаваць сваю сутнасьць праз ужываньне псэўдадэмакратычнай рыторыкі. Беларускае грамадзтва ўжо прыйшло да разуменьня таго, што рудымэнт савецкай эпохі – "дзяржаўныя СМІ" – павінен заняць сваё сапраўднае месца – на паліцы гісторыі.

**Міхаіл ПАСТУХОЎ,**
**Юры ТАПАРАШАЎ,**
***эксперты па СМІ пры Кансультатыўнай Радзе апазыцыйных палітычных партыяў***

## ПЕРШЫ СМОЛІЧАЎСКІ СЭМІНАР

# Край арыгінальнага хараства

***У мінулым нумары мы анансавалі ініцыятыву шэрагу навуковых і грамадзкіх арганізацыяў Магілёўшчыны (найперш – абласнога аддзелу Беларускага геаграфічнага таварыства) па праведзеньні Першага Смолічаўскага сэмінару Міжнароднай навуковай канфэрэнцыі "Тэарэтычныя і практычныя праблемы геаэкалёгіі". Гэты прадстаўнічы і надзвычай актуальны сэмінар, прысьвечаны 110-годзьдзю з дня нараджэньня нашага выбітнага земляка, адбыўся 27-29 верасьня ў Магілёве і Клічаве.***

***На ім прагучала больш за 10 цікавейшых навуковых дакладаў, якія напярэдадні сэмінару былі выдадзеныя спэцыяльнай кніжкай, на жаль, вельмі абмежаваным накладам. Менавіта з гэтай кніжкі – "А.А.Смоліч і ягоны Час" мы ўзялі надрукаваны ніжэй даклад.***

... Пра Аркадзя Смоліча на Клічаўшчыне даведаліся ў 1989 годзе. Наш мясцовы музэй дзейнічаў да гэтага часу ўжо 30 гадоў, і мы саманадзейна лічылі, што пра гісторыю свайго краю ведаем амаль што ўсё. Гэта цяпер, праз прызму часу і досьведу, ацэньваючы вялікія і малыя адкрыцьці, разумеем, што працэс спасьціжэньня гісторыі бясконцы. Мы вельмі ўдзячныя нашым сябрам, навукоўцам Андрэю Болатаву і Генадзю Рыдзеўскаму за іх самаадданую дасьледчыцкую працу, за тое, што яны дапамаглі нам убачыць асобу Смоліча ня толькі як таленавітага вучонага, але й як простага, шчырага і працавітага чалавека.

У 1991 годзе, калі навуковая грамадзкасьць адзначала 100-гадовы юбілей Смоліча, група сталічных навукоўцаў наведала нашу Клічаўшчыну і вёску Бацэвічы, наш музэй, які тады меў статус музэя народнай славы і распавядаў у асноўным пра гісторыю Клічаўскай партызанскай зоны ў часе Другой сусьветнай вайны. Хтосьці з гасьцей-вучоных падчас візыту, працягваючы распачатую ў Бацэвічах гаворку пра знакамітага земляка, зазначыў: "Смоліч – гэта асоба не зь мінулых часоў. Ён заўсёды будзе ісьці да нас з будычыні". Для нас, супрацоўнікаў музэя народнай славы і краязнаўцаў, сэнс гэтых словаў адкрыўся тады не адразу. Спатрэбілася амаль 10 гадоў, каб зразумець, што меў на ўвазе больш дасьведчаны чалавек з сталіцы. Гэта цяпер мы разумеем, наколькі глыбока і рознабакова паўплывала асоба Смоліча на самое разьвіцьцё краязнаўства ў нашым раёне. Усе гэтыя гады, як, спадзяюся, будзе надалей, галоўнай мэтай працы нашага калектыву краязнаўчага музэю, нашых добраахвотных памочнікаў і шчырых заўзятараў гісторыі стала імкненьне зрабіць усё, гаворачы словамі Смоліча, "каб Беларусь перасталася быць краем, невядомым самым беларусам, каб беларусы зацікавіліся сваёй Бацькаўшчынай..., каб заахвоціліся самі шукаць і бачыць яе арыгінальнае хараство".

Па-смолічску мы й пачалі найперш шукаць гэтае хараство ў тым краі, дзе ён калісьці нарадзіўся, пачалі па крупінках зьбіраць матэрыялы для музэю зусім іншага тыпу, чым ён быў раней – музэю, які б ня толькі паказваў і расказваў пра мінулае, але й прымушаў задумвацца аб будучым.

Тады, у пачатку 90-х гадоў, ідэя стварэньня гісторыка-прыродазнаўчага музэя, у якім бы прысутнічаў ня толькі вобраз вучонага-географа, але й знайшлі б увасабленьне некаторыя ягоныя думкі, – яшчэ не была выразна акрэсьленая. Цяпер жа здаецца, што за нашымі пошукамі і высілкамі стаяў сам Аркадзь Смоліч, які заўсёды сцьвярджаў, што прырода і грамадзтва – гэта адзінае цэлае, якое трэба разглядаць у непарыўнай сувязі і ўзаемадзеяньні. Менавіта смолічская "Геаграфія Беларусі" пераканала нас, што музэй не павінен асобна распавядаць пра гісторыю, а асобна – пра прыроду. Самое жыцьцё дапаўняла і шліфавала гэты праект, прыцягваючы да яго цікавых творчых людзей. З намі распачалі і ўвесь час ахвотна супрацоўнічаюць абласны краязнаўчы і Рэспубліканскі музэі. Дапамагаюць нам дасьледваць родны край Інстытут гісторыі і Інстытут экспэрымэнтальнай батанікі нацыянальнай Акадэміі навук. За гэты час у нас склаўся творчы калектыў, які верыць, што на радзіме Смоліча будзе ня проста музэй, а гісторыка-прыродазнаўчы комплекс, які аб'яднае экспазыцыю зь зімовым садам, аптэкарскім гародам, дэндра-паркам лясгасу. У будучым мы зможам прапанаваць нашым наведвальнікам ня толькі экскурсію "Па партызанскіх сьцежках", але й наведаньне экаляга-гідралягічнага заказьніка "Астравы Дулебы".

Да пошукаў і вывучэньня "арыгінальнага хараства" свайго краю нам удалося прыцягнуць школьнікаў, студэнтаў агратэхнічнага каледжу, настаўнікаў. З апошніх дасьледчых удачаў студэнтаў нельга не назваць новыя сьведчаньні пра родную вёску вучонага – Бацэвічы, для чаго юныя краязнаўцы зазірнулі ажно на 300 гадоў назад. А мясцовыя настаўнікі пад патранажам Інстытута экспэрымэнтальнай батанікі распачалі экалягічны маніторынг расьлінаў, якія занесеныя ў нацыянальную "Чырвоную кнігу". Увогуле, кожнага Першага верасьня ў школах адбываюцца ўрокі аб жыцьці і дзейнасьці Аркадзя Смоліча, а таксама – аб этнаграфіі, гісторыі і прыродзе роднай Клічаўшчыны. На жаль, нягледзячы на падтрымку мясцовай улады нашага праекту па пераўтварэньню музэя, ягонае фінансаваньне штогод скарачаецца. У наяўнасьці мы атрымліваем ня больш за 30 адсоткаў ад заплянаваных сродкаў. Трываем як можам!

Таму музэй наш разам з комплексам усяго, што задумана, пакуль ня стаў новым помнікам, вартым земляка. Помнікам яму застаецца мэмарыяльная дошка на доме ў Бацэвічах, экспанаты, што перадалі музэю ягоныя нашчадкі, і наша ўдзячная Памяць...

***Л.АЧЫНОВІЧ**, дырэктар Клічаўскага музэю*

Бліжэйшым аўторкам, 9 кастрычніка, у Магілёве мае адбыцца сустрэча з грамадзкасьцю горада, найперш чытачамі часопісу ARCHE і газэты "Наша Ніва", галоўных рэдактараў гэтых выданьняў – Валеркі Булгакава і Андрэя Дынько. Сустрэча пройдзе ў канфэрэнц-залі Дома друку а 18-й.



Фота Д.Новікава — Магілёў



Фота IREX — Мазыр

# Тое ў Мазыры, а тое – у нас...

***29-га верасьня магілёўскія маладафронтаўцы наладзілі ў абласным цэнтры свае, альтэрнатыўныя "Дажынкі-2001".***

Гэтая тэатралізаваная дзея адбылася тады, калі ў Мазыры на аднайменным афіцыйным рэспубліканскім фэстывалі марнаваліся грошы беларускіх падаткаплацельшчыкаў на ўдыгу кіраўніцтва краіны, якое такім чынам дэманстравала пасьляховае разьвіцьцё нашай сельскай гаспадаркі. А ў нашым абласным цэнтры тым часам пэрфоманс правялі некалькі дзясяткаў маладых хлопцаў і дзяўчатаў у скверы імя Манэвіча, акурат насупраць будынку КГБ.

Як і належыць, спачатку былі ўшанаваныя лепшыя працаўнікі вёскі. Самая ***"руплівая даярка"***, у адпаведнасьці з шматпрофільнасьцю сваёй працы, а таксама з шанаваньнем нашай агульнай савецкай гісторыі, ды беручы пад увагу незваротную тэндэнцыю да тэхнічнага пераўзбраеньня беларускага аграрнага сэктару, была ўзнагароджаная сярпом без кавалды.

Не было нічога незвычайнага і ў тым, што на альтэрнатыўных "Дажынках-2001" ушанаваны ***"перадавы камбайнэр"*** ледзь трымаўся на нагах, бо пасьля пераможнай бітвы з ураджаем ён заслужыў сабе паслабленьне. Самадзейны ***"хор калгасьнікаў-перадавікоў"*** выканаў з гэтай нагоды некалькі песьняў пра "заслужаную пляшку". Што тычылася закускі, то Галіна-кухар, ***"лепшая ў сваёй прафэсіі"***, прапанавала прысутным стравы ўласнага прыгатаваньня. Пры гэтым прыгожая вядучая фэстывалю чамусьці заўважала, што праз спажываньне гэтых харчоў можна даць дуба.

Але некалькі аспэктаў усё ж засмуцілі агульнае ўражаньне ад магілёўскіх "Дажынкаў": пахмурнае надвор'е ды малая колькасьць гледачоў (балазе, два ўважлівых міліцыянты надавалі сьвяту пэўны каларыт). Да таго ж, арганізатары выкарыстоўвалі не вядомую ўсім чырвона-зялёную, а нейкую незразумелую сымболіку: на іхных сьцягах усьлед за белай паласой ішла чырвоная, а потым зноў жа белая... Але трэба спадзявацца, што ўсе гэтыя хібы будуць выпраўленыя да наступных "Дажынкаў".

*Алесь ДАЙНЕКА*

**P.S.** ***Сьвята ўсё ж азмрочылася на магілёўскі манэр. Пасьля заканчэньня акцыі былі затрыманыя Зьміцер Букатаў і Аляксандар Гамаюнаў за тое, што вярталіся ў офіс з бел-чырвона-белымі сьцяжкамі ў руках. Нейкі час іх пратрымалі ў міліцэйскім пастарунку, але пратаколу не складалі і вызвалілі пасьля прыезду ў пастарунак маці непаўнагадовага Аляксандра.***

## Уздагон сустрэчы з Рыгорам Барадуліным

У мінулы нумар "ТМ", дзе распавядалася пра паэтычны вечар Рыгора Барадуліна разам з Алесем Камоцкім у магілёўскай вучэльні культуры, не пасьпелі, на жаль, гэтыя здымкі ***А.Ліціна***. Мы палічылі аднак, што ніколі ня позна, а тым больш не залішне, узгадаць яшчэ раз пра цікавую і карысную імпрэзу.





Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*



АДРАС РЭДАКЦЫІ:

212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 14. Наклад 3000 асобнікаў. Падпісана да друку 04.10.2001 г. а 17.05.